# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1540) ГОД XXX БЕЛАСТОК 17 ЛІСТАПАДА 1985 г. ЦАНА 10 зл.


## ЦЁТКА МАТРОНА І ДЗЯДЗЬКА АВАКУМ

Бельск. Новы раён па шашы да Кляшчэляў. Ідучы сярод мураваных асабнякоў, ніяк не мог я ўявіць васьмідзесяцігадовага дзядзьку, які жыве ў „віле". Сярод шэрасці „бункераў" убачыў я прыгожую драўляную хатку, тыповую для беларускай вёскі, з утульным, чысценькім панадворкам і агародам — быццам аазіс.

Сустрэла мяне сімпатычная бабулька Матрона — жонка дзядзькі Авакума Ваўрашука.

Дзядзька Авакум — хударлявы, яшчэ даволі энергічны дзядуля, прывітаў мяне неяк стрымана. Пэўна, не так уяўляў сабе журналіста „Нівы", якую чытае ад першага нумара. Пасля кароткага знаёмства, цётка Матрона і дзядзька Авакум расказалі пра сваё жыццё.

Яшчэ пры цары ў Спічках у асобным будынку была царкоўна-прыхадская школа. Была гэта вялікая зала з доўгімі партамі. На шафе, запоўненай кніжкамі, стаяў вялікі глобус. У кутку вісела ікона св. Аляксея (патрона навукі) і на сцяне партрэт імператара Мікалая II. У пачатку ўрокаў усе вучні разам гаварылі малітву і спявалі гімн „Божэ, цара храні". Вучыла ў школе адна настаўніца. Найважнейшымі прадметамі былі: рэлігія і царкоўнаславянская мова. На ўроках рускай мовы чыталі байкі Крылова, якія дасюль памятае тагачасны вучань Авакум Ваўрашук. Вучыўся на пяцёркі, хаця меў сіроцкае дзяцінства. Жыў у свайго дзядзькі, які меў і сваіх дзяцей.

— Яны спалі, а я, пакуль яшчэ жаваранкі заспяваюць, то коней пас на мяжы, — цяжка ўздыхае дзядзька Авакум.

Калі пачалася першая сусветная вайна, мясцовых сялян выганялі ў бежанцы.

— Было гэта дзесь пад восень, на полі авёс даспяваў. Бралі з сабой увесь дабытак. Ехалі лесам каля Орлі цераз Шчыты да Гайнаўкі. Па дарозе мноства фурманак, людзей. Табары былі ў тры рады: два — войска і адзін — бежанцаў. Начавалі на ўзбочыне дарогі. Дзядзька мой рашыў ехаць ноччу, каб хутчэй выбрацца з гэтага пекла. У дарозе захварэў на халеру і памёр. Дабраліся неяк да Пінскіх балот. Я тады захварэў на чырвонку. Лячылі ўжо ў бальніцы ў Мінску. Потым аддалі мяне як сірату ў польскую ахронку, дзе пачуў я першы раз польскую мову: „Дзеці, — кто хцэ гэрбаты?". Так успамінае сваю дарогу ў бежанцы дзядзька Авакум.

І распачалося сіроцкае бадзянне дзесяцігадовага хлапчука ў ваенныя часы па рускіх прасторах. Трапіў у прытулак у горадзе Гарохавец ва Уладзіміраўскай губерні. Гэты „прыют" утрымоўваў багаты чалавек, які меў свой маёнтак і заводы. Разам з бежанцамі ў прытулку было трыццаць дзяцей. За дом і ежу дзеці працавалі на гаспадара. Авакум рашыў адтуль уцякаць. Выбраўся таварным поездам у Маскву. Блукаў галодны па завулках. Часам салдаты пачаставалі хлебам і гэта ўсё. З Масквы накіраваўся (ізноў таварным поездам) у напрамку Мінска. Даехаў да лініі фронту, дзе яго затрымалі жандары. Адаслалі ў прытулак, дзе былі горшыя ўмовы, чым у Гарохаўцы. Тады папрасіўся, каб дазволілі вярнуцца ў свой прытулак. Непрыемна было вяртацца, але ўсё-такі на старым месцы адчуваў сябе лепш. Многа знаёмых. Нават ганарыўся перад хлопцамі-калегамі, расказваючы пра свае „ваенныя" прыгоды.

(Працяг на стар. 4)



Матрона і Авакум Ваўрашукі. Фота Я. Чэрнякевіч

## Адгалоскі

### МАЎЧЫЦЕ!..

Калі я вучылася ў першым класе пачатковай школы, мы два разы ездзілі на экскурсію. Ездзілі зусім блізка. Раз у Гайнаўку, дзе наведалі тэатр для дзяцей, гэта значыць Дом культуры „Гурнік", у якім адбывалася пастаноўка.

Прыехаўшы цягніком у Гайнаўку, усе дзеці пачалі гаварыць на мове, якой навучылі іх бацькі. Адна з настаўніц, якая лічыла сябе полькай, крыкнула: „Перастаньце гаварыць! Калі хтось вельмі хоча, няхай гаворыць па-польску, калі хтось яшчэ не навучыўся гаварыць па-польску, няхай маўчыць". „Так, так, — падтрымала яе другая, — ідзіце ціха".

Многія вучні ішлі моўчкі, зрэдку адзываючыся. Гледзячы на гэта з перспектывы часу, мяне вельмі здзіўляе пастава настаўніц. Адна была беларускай, а другая, па-мойму, таксама беларуска, толькі каталіцкага веравызнання. Такіх палякаў, як тая настаўніца, ва ўсходняй Беласточчыне поўна. Яны штодзённа між сабою гавораць на мясцовай гутарцы, а ў нядзелю ідуць у касцёл і таму называюць сябе палякамі.

Другі раз ездзілі на экскурсію ў Белавежу. Калі ішлі па вуліцы і гутарылі па-беларуску, настаўніцы зноў звярнулі нам увагу і загадалі гаварыць па-польску. „Ніхто з сустрэтых намі людзей не скажа, што прыехалі вучні з польскай школы, скажуць, што з Беларусі". — усміхаючыся гаварылі яны. Як бачым, беларускі, якія вучаць дзяцей з беларускіх вёсак, адразу пачынаюць ад таго, што сваёй мовы трэба саромецца. Вельмі баяцца, каб хтось не сказаў на іх: беларусы.

Чаму ж многія інтэлігенты беларускага паходжання стараюцца ўсімі сіламі забіць у сабе тое, што беларускае? Мне здаецца, што школа павінна не толькі вучыць, але і выхоўваць. Трэба, каб настаўніцы-полькі, дзе няма іншых нацый сярод вучняў, апрача палякаў, вучылі шанаваць усіх жыхароў Польшчы непольскага паходжання. Таксама на рэлігіі павінны рабіць ксяндзы і манашкі. Настаўніцы — полькі ці беларускі, калі вучаць там, дзе жывуць беларусы, павінны вучыць пашане да роднай мовы і пашане да другіх нацый. Трэба зрабіць так, каб беларусы не саромеліся сваёй мовы ў горадзе. Многія настаўнікі гэтым не зацікаўлены. Расказваў адзін мужчына,

(Працяг на стар. 4)




Не карай мяне, лёс, глухатой,
Той, што перашкаджае пачуць,
Як світальнай вясновай парой
Журавы на радзіму лятуць,

Як хто кліча мяне памагчы
Або грукае ў дзверы мае,
Як самотны хто плача ўначы
Ці ў застоллі сяброўскім пяе.

Як шумяць-каласяцца жыты,
Як звініць зарапад над зямлёй,
Шапацяць і дажджы, і лісты —
Не карай мяне, лёс, глухатой!

### ПЯСОЧНЫ ГАДЗІННІК

Задаволены мой сусед,
Які памяняў са мной
Свой пясочны гадзіннік
На механічны будзільнік,
Бо перастаў спазняцца
На стрэчы, на працу.

І я — у выйгрышы:
Часта слухаю цяпер,
Аб чым шэпчуцца тыя,
Што сталі пяском,
А забуду яго перавярнуць —
Мой час на нейкі міг
Спыняецца, даўжэе.

* * *

Дрэнна, калі згасне зрок,
Бо тады свет навакольны знікае
Дрэнна, калі глухне слых
І не чуеш, хто плача,
А хто смяецца.
Дрэнна, калі з сэрца
выветрыцца
Усё сумленне,
Бо яно не вяртаецца зноў.
А найгорш,
Калі розум засне,
Бо тады ў дзверы ломяцца
Злыбеды ўсе.

Максім Танк

## НА мяжы

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XII)

У ліпені бягучага года я ехаў з Бандароў у Беласток аўтобусам. Прыблізна ў палове дарогі, у вёсцы Тапаляны, сапсаваўся наш аўтобус. Пасажыры былі вымушаны выйсці з машыны. Усе разбрыліся па вуліцы, чакаючы нейкага наступнага аўтобуса. Я таксама прайшоў метраў 150 і прысеў на лаўку, якая стаяла перад адной з тапалянскіх хат. На лаўцы сядзеў мужчына, прыблізна саракагадовы, і забаўляў, можа, шасцігадовую дзяўчынку. Гаварыў з ёю па-польску. У гэтым не было ніякага дзіва, тым болей, што я нават не ведаў, ці з'яўляецца ён мясцовым жыхаром, ці, можа, прыехаў здалёк. Пасля пэўнага часу выйшла з хаты гаспадыня і паклікала мужчыну і дзяўчынку ў хату. Гаварыла яна па-беларуску, аднак мужчына ёй адказваў па-польску. Пасля адыходу мужчыны і дзяўчынкі гаспадыня асталася пры плоце і спытала мяне, што здарылася з аўтобусам. Адказаўшы ёй, я спытаў яе пра мужчыну і дзяўчынку і даведаўся, што гэта яе родны сын і ўнучка. Пасля гэтага я спытаў, чаму ён адказвае ёй па-польску, тады, калі яна з ім гаворыць па-беларуску. І тут жанчына з мінай вялікага пераможцы, трыумфальна расказала мне наступную гісторыю: „Калі ён у мяне быў маленькі і захварэў, я яго павезла да лекара ў Заблудаў. Калі лекар пачуў, што я з сынам гавару па-свойму, спытаў: „Gdzie pani mieszka — w Rosji czy w Polsce? Chyba że w Polsce? To chyba wie Pani po jakiemu powinna mówić ze swym dzieckiem!" Вярнуўшыся з Заблудава, — прадаўжала жанчына, — я пастанавіла больш не калечыць сваіх дзяцей. І калі ў мяне нарадзіліся пазней дзве дочкі, то я з імі ўжо і слова не сказала па-свойму, а толькі па-польску. Яны ўсё сёння разумеюць, калі я з імі гавару па-свойму, але самі і слова па-нашаму не скажуць. Вось так той лекар мяне розуму навучыў. І вельмі добра. Раз мы ў Польшчы жывем, значыць, мы палякі".

Жанчына ўсё гэта сказала з жарам, з унутраным перакананнем, а нават з удзячнасцю да таго добрага лекара, які памог не толькі целу яе дзіцяці, але і вылечыў яе душу. Калі я пачаў ёй гаварыць аб тым, што яна паступіла нядобра, жанчына, выразна незадаволеная маімі словамі, дэманстрацыйна павярнулася і пайшла ў хату. Адчувалася, што трактуе мяне як чудака або нахабніка, які не ведае, чаго ад яе хоча.

Я зразумеў, што перад яе хатаю мне не месца, падняўся з лаўкі і пайшоў у другі бок. Едучы ў Беласток, бо ўрэшце паявіўся нейкі аўтобус, ды і многа пазней у Варшаве я думаў аб гэтай справе. І думаю сёння перш за ўсё ў наступным аспекце. Дапусцім, што нейкай польцы ў такі ці іншы гістарычны перыяд, у такой ці іншай краіне няпольскі лекар сказаў тое, што сказаў заблудаўскі лекар беларусцы з Тапалян. Як яна паступіла б у такой сітуацыі? Я ўпэўнены, што, прыехаўшы дахаты, правяла б нараду з сялом, а можа і з суседзямі і ўсе яны разам рашылі б наступнае: незалежна ад сітуацыі і ад націскаў трэба сваіх польскіх дзяцей выхоўваць у духу вернасці да роднага, і перш за ўсё ў духу вернасці да роднай мовы. Няхай чужынцы гавораць найбольш найгоршага аб нашай мове, мы і нашы дзеці ніколі ёй не здрадзім.

(Працяг на стар. 3)



## Весткі з Беларусі:

### ДЭПУТАТУ ДЗЕВЯТНАЦЦАЦЬ ГОД

Глеб Ярамееў — адзін з 485 дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР. У Мінскім радыётэхнічным інстытуце, дзе ён вучыцца, аб ім можна пачуць толькі добрыя водгукі. Вось што, напрыклад, расказаў старшыня прафсаюзнага камітэта студэнтаў Віталій Бусько:

— Будучая спецыяльнасць Глеба Ярамеева, якую ён атрымае ў нашым інстытуце, і папулярная, і вельмі неабходная народнай гаспадарцы рэспублікі. Яна звязана з аўтаматызацыяй вытворчасці і ўдасканальваннем тэхнічных сістэм кіравання. А пакуль што студэнт трэцяга курса заняты вучобай, слухае лекцыі вядомых выкладчыкаў — вучоных, у тым ліку і членаў-карэспандэнтаў Акадэміі навук БССР, якія вядуць плённыя даследы ў розных напрамках развіцця радыёэлектроннай тэхнікі. Без глыбокіх ведаў тэорыі, як правіла, нельга стаць добрым спецыялістам, высокакваліфікаваным інжынерам. Як Глеб стаў дэпутатам? Наш прафсаюзны камітэт супольна з камітэтам камсамола ў перыяд вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР прапанаваў яго кандыдатуру, якую падтрымаў увесь калектыў інстытута. Глебу ўласцівыя такія якасці, як працавітасць, арганізатарскія здольнасці, клопаты аб людзях, прынцыповасць. Словам усё, што неабходнае грамадскаму дзеячу.

Тое, што ў склад Вярхоўнага Савета БССР



Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Глеб Ярамееў (справа).

увайшоў дэпутат-студэнт — гэта прыклад і сапраўднай дэмакратычнасці савецкай выбарчай сістэмы, і палітычнага даверу моладзі ў кіраванні рэспублікай.

Глеб Ярамееў займаецца на факультэце аўтаматызацыі кіравання, ленінскі стыпендыст. Ён старшыня савета выдатнікаў інстытута. Дарэчы, каб стаць ленінскім стыпендыстам, неабходна і выдатна вучыцца, і быць грамадска актыўным чалавекам.

Глебу толькі дзевятнаццаць. Ён нарадзіўся ў Мінску ў сям'і рабочага-токара і балерыны. Зараз бацька, Уладзімір Канстанцінавіч, працуе на эксперыментальна-фурнітурным заводзе, маці Раіса Аляксееўна, пасля таго як па ўзросту адыйшла ад балета, вядзе заняткі ў дзіцячых танцавальных гуртках Палаца культуры Мінскага трактарнага завода.

У сям'і Ярамеевых пануе дружба і згода, у адносінах да сына далікатная бацькоўская апека. Глеб сам выбраў жыццёвы шлях пасля школы, самастойна прымаў рашэнне, калі зрабілі яму прапанову даць згоду быць кандыдатам у дэпутаты.

Вядома, што рашэнне прымалася нялёгка. Чаму? Ды таму, што патрабавалася ўкласці на сябе вялікую адказнасць перад шматтысячным атрадам выбаршчыкаў, каб годна прадстаўляць іх жыццёвыя інтарэсы ў вышэйшым заканадаўчым органе ўлады рэспублікі. За плячыма ж у юнака быў, па сутнасці, невялікі жыццёвы вопыт... Але калектыў радыётэхнічнага інстытута, калі вылучаў яго ў кандыдаты, несумненна, ведаў аб патэнцыяльных магчымасцях Глеба.

Зараз Глеб Ярамееў з выдатнай вучобай у інстытуце спалучае актыўную работу па выкананню наказаў выбаршчыкаў, што жывуць у адным з новых мікрараёнаў Мінска Зялёным Лузе-6. А наказы сур'ёзныя. Адзін з іх, напрыклад — тэрміновае будаўніцтва аўтаматычнай тэлефоннай станцыі, каб забяспечыць усіх жыхароў Зялёнага Луга-6 тэлефоннай сувяззю. Ёсць аб чым паклапаціцца народнаму дэпутату!

Па якой дарозе пойдзе жыццё Глеба Ярамеева пасля заканчэння радыётэхнічнага інстытута, пакуль што невядома. Будзе працаваць ён інжынерам у народнай гаспадарцы? Сур'ёзна захопіцца навукай? А можа сённяшняя дэпутацкая дзейнасць стане ступенькай да прафесіянальнай палітычнай кар'еры?..

Аб адным можна сказаць з упэўненасцю: ніводна з гэтых дарог перад ім не закрыта.

**Міхаіл Стэльмак**
Фота Станіслава Крыцкага

## „Найцяжэй усё ж заставацца..."

### (УРАЖАННІ З ПАДАРОЖЖА ПА ФІНЛЯНДЫІ)

Па запрашэнню Праваслаўнага саюза моладзі з 13 па 30 жніўня г.г. гасцяваў у Фінляндыі хор Брацтва праваслаўнай моладзі, які дзейнічае пры саборы св. Міколы ў Беластоку. Мы ехалі пазнаёміцца з прыгожай фінскай зямлёй, яе помнікамі і гісторыяй, а таксама каб пазнаёміць яе жыхароў са славянскай царкоўнай музыкай.

У хельсінскім порце нас прывітала значная група моладзі, якую ўзначальваў а. Аляксандр Карэлін. З боку Праваслаўнага саюза моладзі апекунамі і адначасна перакладчыкамі, якія дасканала валодалі рускай мовай, былі Сірпа Пальвіянен і Бёр'е Гольмберг.

Падчас нашага побыту ў краіне тысячы азёр аўтобус „Ювентура" праехаў з намі 4 тысячы кіламетраў, а дасканалыя аўтастрады вялі яго праз бясконцыя, здавалася, лясы, берагі маляўнічых азёр, праз горы і раўніны. Мы наведалі многа фінскіх гарадоў, між іншым, пабывалі ў Хельсінках, Тампэрэ, Ёнсуу, Нурмес, Каяані, Оулю, Кемі, Куоп'ё, Валямо і Мікелі. У гарадах наш хор выступіў з канцэртамі 15 разоў.

Мы выступалі пераважна ў храмах, хоць некалькі канцэртаў прайшло ў школах і філармоніі. Слухалі нас не толькі праваслаўныя веравызнаўцы. Асабліва ў школах колькасць праваслаўных была малая, а здаралася, што сярод шасцісот слухачоў не было ніводнага праваслаўнага вучня. Нягледзячы на гэта прымалі наш калектыў вельмі сардэчна і слухалі з вялікай увагай, якой нават нашыя харысты і не спадзяваліся. Са спевамі нашага хору фіны маглі таксама пазнаёміцца на шматлікіх набажэнствах, у якіх наш калектыў удзельнічаў.

Падчас трохтыднёвага падарожжа наша моладзь мела нагоду бліжэй прыглядзецца да штодзённага жыцця фінскай царквы, пазнаёміцца з яе структурай. У Фінляндыі каля 60 тысяч праваслаўных, а гэта пры 4,5 млн. яе насельніцтва складае звыш 1 працэнт. Найбольшая парафія — гэта парафія ў Ёнсуу, у ёй каля 5 тысяч парафіян. Гэты горад — сталіца фінскага праваслаўя. Тут таксама мае сваю сядзібу цэнтр Праваслаўнага саюза моладзі. Гэтая арганізацыя сваёй дзейнасцю ахоплівае надта ж разнастайныя галіны жыцця, між іншым, выдае для дзяцей газетку пад загалоўкам „Туоюстулі" („Полымя свячы"), арганізуе шматлікія лагеры адпачынку для моладзі і займаецца падрыхтоўкай яе апекуноў, па яе ініцыятыве вуліцамі гарадоў праходзяць крыжавыя працэсіі, пры яе дапамозе ў Ёнсуу дзейнічае парафіяльнае прадшколле, арганізуюцца гурткі зацікаўленняў для малых дзяцей. У Фінляндыі многа асяродкаў адпачынку, якія з'яўляюцца ўласнасцю царквы. Яны знаходзяцца сярод лясоў на берагах азёр.

(Працяг на стар. 5)

# У БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ

Пленарнае пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім адбылося 21 кастрычніка 1985 года. У пачатку пленума прысутныя выбралі старшыню і членаў Прэзідыума праўлення. Функцыю старшыні члены праўлення даручылі Васілю Ляшчынскаму, вядомаму грамадскаму і партыйнаму дзеячу, дырэктару пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім. Сябра Васіль Ляшчынскі ўжо 12 год працуе дырэктарам гэтай школы, дзе ўсе вучні вывучаюць беларускую мову. Нядаўна, з нагоды Дня настаўніка за выдатную працу Васілю Ляшчынскаму быў уручаны Сярэбраны Крыж Заслугі.

У склад Прэзідыума праўлення былі выбраны: Аляксей Карпюк — намеснік старшыні, Вера Рышчук — сакратар, Віктар Вішнеўскі — скарбнік, Сяргей Лукашук, Юрка Манаховіч і Тамара Русачык — члены.

Асноўнай тэмай пленума былі заданні аддзела па рэалізацыі пастаноў X з'езда БГКТ. Дыскусія на пленуме сведчыла аб вялікім заангажаванні бельскіх дзеячоў у працу нядаўна створанага аддзела, які налічвае 30 гурткоў і 850 членаў.

Аляксей Карпюк паставіў пытанне, ці ёсць магчымасці, каб Бельскі аддзел БГКТ быў добрым аддзелам. Даказваў ён, што ў Бельску ёсць добры актыў у гуртках і ў аддзеле. Старшыня аддзела В. Ляшчынскі з'яўляецца дырэктарам школы, якая сярод бацькоў, сярод жыхароў горада мае многа прыхільнікаў. Сведчыць аб гэтым, між іншым, тое, што бацькі грамадскім чынам уключыліся ў разбудову школы. У Бельску працуе беларускі агульнаадукацыйны ліцэй, тут спяваюць славутыя „Васілёчкі". Дзейнічае таксама свой клуб. Усё гэта стварае спрыяльную атмасферу для развіцця дзейнасці БГКТ, а бельскія дзеячы павінны гэтыя магчымасці ўмела выкарыстоўваць.

Сяргей Лукашук звярнуў увагу на культурную дзейнасць у таварыстве. Паінфармаваў ён аб ініцыятыве арганізавання Галоўным праўленнем свята беларускай культуры, песні і турыстыкі. Да гэтага мерапрыемства гурткі і аддзелы павінны рыхтавацца ўжо ад сёння. Прапанаваў ён запрасіць на гэта свята калектывы з Беларускай ССР і з нагоды 30-годдзя БГКТ надрукаваць плакат.

Уладзімір Раеўскі даказваў, што арганізаванне свята беларускай культуры будзе дасканалым момантам для актывізацыі дзейнасці гурткоў БГКТ. У рамках гэтага святкавання трэба праводзіць агляды, выстаўкі вырабаў народнай творчасці. У дзейнасць гурткоў БГКТ трэба ў большай ступені ўключаць настаўнікаў з беларускага ліцэя і пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім.

Аб працы гурткоў БГКТ у вясковым асяроддзі гаварылі Уладзімір Гліва і Мікалай Вязоўскі. Яны звярталі ўвагу на неабходнасць актывізаваць культурнае жыццё ў гуртках і супрацоўнічаць з маладзёжнымі і жаночымі арганізацыямі ў правядзенні культурных мерапрыемстваў.

Вера Рышчук сказала, што ініцыятыва арганізавання свята беларускай культуры знойдзе шырокі водгук сярод членаў БГКТ. У падрыхтоўку гэтага мерапрыемства трэба абавязкова ўключыць студэнтаў, якія арганізуюць рэйды па бацькаўшчыне. У далейшым гаварыла яна аб чытальніцтве „Нівы". Стала ўжо традыцыяй, што ў беларускім ліцэі вучні выпісваюць „Ніву". Трэба знайсці спосаб на тое, каб усе члены БГКТ выпісвалі „Ніву" ва ўсіх гуртках. Але трэба дбаць пра змястоўнасць „Нівы", помніць аб тым, каб артыкулы былі цікавыя і маглі выкарыстоўвацца на ўроках беларускай мовы і ў дзейнасці гурткоў БГКТ.

Старшыня аддзела БГКТ Васіль Ляшчынскі ў сваім выступленні даў адказ на пытанні, закранутыя ў дыскусіі, і паказаў на найважнейшыя справы, якімі ў бліжэйшым часе будзе займацца Бельскі аддзел БГКТ. Галоўная справа гэта наладжанне пастаяннага супрацоўніцтва з гурткамі і актывізацыя іх дзейнасці. Наступныя справы — гэта развіццё культурнай дзейнасці, удзел гурткоў і аддзела ў культурных мерапрыемствах, арганізаваных у сезоне 1985/1986, адзначэнне юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы". Старшыня аддзела падкрэсліў, што трэба распаўсюджваць „Ніву" ў школах. „Ніва" ж павінна быць бліжэй чытачоў, пісаць пра нашых людзей, пра нашы вёскі. Неабходна таксама пашыраць кантакт беларускага ліцэя ў Бельску з пачатковымі школамі, каб выклікаць большае зацікаўленне навучаннем беларускай мовы. Мастацкі калектыў бельскіх ліцэістаў павінен стаць частым госцем у школах, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы.

Пленум закончыўся прыняццём пастановы аб задачах аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім па рэалізацыі пастаноў X з'езда.

**В. Луба**

# У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

28 кастрычніка 1985 года адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ. Асноўнай тэмай пасяджэння было прыняццё праграмы святкавання юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы". У прынятай Прэзідыумам ГП праграме прадбачваецца шырокая папулярызацыя дасягненняў Беларускага грамадска-культурнага таварыства сярод насельніцтва ваяводства і краіны. У сувязі з 30-годдзем БГКТ і „Нівы" будзе арганізавана навукова-папулярная сесія, урачысты пленум Галоўнага праўлення і свята беларускай культуры. Заслужаным дзеячам нашага таварыства будуць прызнаны адзнакі і дыпломы. Гэтаму юбілею будуць прысвечаны ўсе нашы культурна-асветныя і арганізацыйныя дзеянні ў 1986 годзе. Усё гэта будзе рабіцца з мэтай падсумавання і папулярызацыі дасягненняў БГКТ, указання прагрэсіўных перамен у беларускім асяроддзі ва ўмовах народнай Польшчы, актывізацыі членаў і звенняў БГКТ у выкананні статутовых абавязкаў. Да падрыхтоўкі і правядзення юбілейных святкаванняў створаны арганізацыйны камітэт.

У другой частцы пасяджэння Прэзідыум ГП прыняў інфармацыю аб выкананні плана даходаў і выдаткаў за тры кварталы 1985 г.

**В. Луба**



Бельск. Фота Я. Целушэцкага.

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Некаторыя цікавейшыя магістэрскія працы, напісаныя ў Варшаўскім універсітэце, Філіял у Беластоку ў г.г. 1977-1982, якія датычаць Беласточчыны.

Szydłowski Marian — Fleksja białoruskiej gwary wsi Czerwonka w gminie Suchowolce. filologia rosyjska, 1977/78, prom. M. Łesiów.

Wakuluk Jadwiga — Typologia i częstotliwość imion (na podstawie książki telefonicznej Białegostoku i Poznania), filologia polska, 1977/78, prom. M. Jurkowski.

Waleszczyk Elżbieta — Ludowe nazwy ziół i kwiatów w dorzeczu Łosośny, filologia polska, 1977/78, prom. I. Halicka.

Zawodnik Piotr — Typy układów przestrzennych miast Podlasia i wschodniego Mazowsza w XVI—XVIII wieku, historia, 1980/81, prom. A. Wyrobisz.

**М.К. і Р.С.**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

Ці правільнае гэта было б рашэнне? На маю думку, адзінае і правільнае. Так павінен паступаць кожны горды чалавек на ўсёй зямлі. На жаль, многія беларусы паступаюць па-другому. Калі б цётка з Тапалян была выключэннем, тады аб гэтай справе можна было б увогуле не пісаць. Бяда ў тым, што яна не выключэнне і што яе „сёстры" і „браты" жывуць у многіх беларускіх вёсках. І гэта яны сваю духоўную апустошанасць лічаць поўняй, а сваё найбольшае паражэнне перамогай.

**Алесь Барскі**

# ДАРЫ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ

У апошні час я быў трохі прыхварэў, прахваціў, як то кажуць, цуг. Але бабы выкачалі ў попеле і стала лепш, пачаў папраўляцца. Гэтыя мілыя нашыя бабы, яны ўжануць чалавеку хваробу і вылечаць. Во! — як казаў той Панфілюк.

Пытанне ў мяне адносна экспанатаў для музея. Ці мне самому трэба даставіць экспанаты на месца (калі так, то куды?), ці хто прыедзе? Сярод маіх экспанатаў ёсць так званы „казёл", якім у мінулым (да 20-ых гадоў нашага стагоддзя) рэзалі сечку. Гэта калодка на ножках у тры з палавінай метра даўжыні, трохі цяжкая. Ёсць трое вілаў да саганоў, малаток для кляпання жарам, „дзед" стаячы для лучыны і жалезны, які забіваўся каля печы.

Ёсць запальнічка з 19 стаг. (а карысталіся ёю да 1939 г.). А гэтага крэсіва ёсць некалькі відаў — цунтар і крэмень. Ёсць жалезнае пута, качарга, пранік, кантар (вага), бязмен з 19 ст., вілы драўляныя для сена, ключка для сена, пучок лучыны і іншыя дробныя рэчы.

На пачатак школьнага года я з гэтых экспанатаў зрабіў у сваёй стадоле выстаўку для школьнай моладзі. А цяпер ужо ўсё гэта можна забіраць.

**Дзед Кастусь**

(Працяг са стар. 1)




што настаўніца польскай мовы адной з гайнаўскіх пачатковых школ робіць „усё“, каб вучні не ішлі вучыцца ў беларускі ліцэй. Нават, калі выступаюць дзеці і моладзь на першамайскай акадэміі, то, калі спяваюць выключна па-польску, апладыруе, калі ж спяваюць па-беларуску — моршчыць лоб і сядзіць з мінай мучаніцы.

Апошнім часам беларусы сталі трохі адважнейшыя. Часам гутараць нават у горадзе па-беларуску, але малых дзяцей вучаць гаварыць па-польску. Хто гэта робіць, жывучы ў горадзе, нічога дзіўнага. Трэба дзіця ў прадшколле пасланць і вельмі добра, калі ўмее гаварыць па-польску. Нават, калі ў прадшколле не ходзіць, то гуляе з дзецьмі-палякамі. Часта здараецца, што ў блоку толькі адна беларуская сям'я жыве. Пасля можна навучыць гаварыць па-беларуску, каб дзіця ведала, кім ёсць.

Калі ж гэтак робяць на беларускай вёсцы, выглядае даволі смешна. Не таму, што малы беларус гаворыць па-польску, але таму, што часта вельмі калечыць польскую мову. Уявім сабе такую сітуацыю. Бацькі добра валодаюць польскай мовай, а дзяды не. Калі дзедка ці бабка пачынае гаварыць унуку ці ўнучцы, то або гаворыць як умее, або прабуе спольшчваць словы, калечачы польскую мову. Калі бацькі ходзяць на работу або займаюцца гаспадаркай, дзяцей даглядае бабка. Дзеці, слухаючы яе, самі пачынаюць рабіць памылкі. Аднойчы я пайшла ў царкву. Да абедні было яшчэ трохі часу і многія людзі сядзелі на лаўцы. Села і я. Побач сядзела жанчына з малой дзяўчынкай. Тая ж дзяўчынка глянула на маму і кажа: „Веш, мама, як самахуод ехал, то лужа воды ахляпала хлопца“. Многія жанчыны засмяяліся. Можа ад такой польска-свойскай гаворкі, а можа ад недарэчнасці, сказанай гэтай дзяўчынкай. Аднак яе мама не вытрымала і кажа: „Нічога дзіўнага, я вучу яе па-польску, але калі іду на работу, то пакідаю яе з бабуляй. Бабка гаворыць па-беларуску і ёй усё мяшаецца“.

А навошта так рабіць? Прыйдзе час — навучыцца па-польску. Некаторыя кажуць, што ў школе будзе такому дзіцяці лягчэй. Я ў гэтыя казкі не веру. Цяпер дзеці самі могуць навучыцца гаварыць па-польску. Слухаюць радыёперадачы на польскай мове і глядзяць тэлевізар.

Калі я ішла ў школу, слабавата ўмела гаварыць па-польску, але вельмі хутка навучылася. Таксама было і з другімі вучнямі, якія вучыліся разам са мной у адным класе. Мой брат малодшы за мяне на некалькі гадоў. Яго гаварыць па-польску таксама не вучылі, але ўмеў. Я сама здзіўлялася, адкуль ён умее так чыста па-польску гаварыць. Аказалася, што „навучыла“ яго радыё і тэлевізар.

Аўрора



Роднае Падляшша. Фота Юркі Трачука.

# ПЛЕНУМ АДДЗЕЛА БГКТ у ОРЛІ

23 кастрычніка праўленне Арлянскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства на сваім пленарным пасяджэнні паставіла пад абмяркоўку метады і формы далейшай працы, якія спрыялі б большай актывізацыі гурткоў БГКТ у выкананні пастаноў X з'езда БГКТ. На гэтую тэму выступіў з дакладам старшыня аддзела Янка Добаш; ён падсумаваў дасягненні аддзела і прачытаў праект прапаноў прэзідыума адносна дзейнасці ў новым культурна-асветным перыядзе.

Янка Добаш падкрэсліў, што падчас выбарнай кампаніі ў Сейм многія члены БГКТ выконвалі адказныя функцыі. Затым гаварыў ён аб тым, што ў гміне Орля няма праблемы навучання беларускай мовы. Усе дзеці ходзяць на яе ўрокі. Павышаецца ўзровень навучання роднай мовы, удасканальваецца майстэрства настаўнікаў.

Ва ўсіх школах развіваецца мастацкая самадзейнасць з беларускім рэпертуарам. Школьнікі заўсёды бяруць актыўны ўдзел у песенных, дэкламатарскіх і тэатральных конкурсах БГКТ. Арлянскі хор (дарослых) таксама бесперапынна дзейнічае, нясе ў народ беларускае слова, песню і музыку.

У Орлі БГКТ заўсёды ўдзельнічае ў арганізацыі ўрачыстасцей з нагоды дзяржаўных гадавін, а таксама гадавін Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай Арміі. У наступным годзе запланавана шырока адзначыць XXX гадавіну БГКТ і „Нівы“ і значна павялічыць колькасць падпісчыкаў. „Ніва“ ў кожнай хаце“. „Кожны член БГКТ — падпісчык „Нівы“. Прадбачана і разбудова арганізацыі. Плануецца арганізаваць гурткі БГКТ у Пашкоўшчыне, Грыгораўцах і Вульцы Выганоўскай. Да кожнага гуртка прыдзелены паасобныя актывісты аддзела заданнем якіх з'яўляецца аказваць усебаковую дапамогу гурткам у іх працы.

Пасля даклада распачалася ажыўленая дыскусія, перапоўненая клопатамі і адказнасцю за беларускую справу.

Таісія Кацэйка звярнула ўвагу на багацце і прыгажосць мясцовага беларускага фальклору, на патрэбу яго запісвання.

— Я настаўніца польскай мовы, — сказала яна, — на сваіх уроках маю шырокія магчымасці прывіваць любоў да роднага, пераконваючы дзяцей у тым, што мова кожнага народа з'яўляецца яе духоўным скарбам. Мы ў школе збіраем і запісваем мясцовы фальклор і прагнем, каб апублікаваны ён быў у кніжным выданні.

— Нядобра, — працягвала яна, — што там, дзе жывуць амаль у 100 прац. беларусы, беларуская мова для дзяцей з'яўляецца добраахвотнай, а не абавязковай. Гэта ставіць яе ў нявыгаднае становішча, у выключную залежнасць ад волі бацькоў, ад іх свядомасці. А дзеці— як дзеці. Ім выгадней, калі менш заняткаў. А калі яшчэ ў школе да гэтага так важнага нацыянальнага пытання аднясуцца абыякава настаўнікі, дык тады лёс роднай мовы ў школе будзе незайздросны.

Таісія Кацэйка (яна радная ваяводскай рады нарадовай) гаварыла таксама аб тым, што часта беларускую культуру проста не заўважаюць.

— Ніводзін польскі харавы калектыў, у тым ліку нават „Курпі зялёныя“ ў Беластоку, яшчэ ніколі не ўключылі ў свой рэпертуар аніводнай нашай беларускай песні. Чаму? Я на пасяджэннях ваяводскай камісіі культуры ўжо некалькі разоў ставіла гэта пытанне і дабівала-

(Працяг са стар. 1)

# ЦЁТКА МАТРОНА І ДЗЯДЗЬКА АВАКУМ

У лютым 1917 года наступіла змена ўрада. Авакум цераз Чырвоны крыж адшукаў сваю маці, якая жыла тады ў Маскве, і летам пераехаў да яе. Там быў сведкам рэвалюцыйных падзей, нават сам разносіў лістоўкі бальшавікоў. Калі ў Маскве не стала працы, то прыехалі ў Калужскую губерню, дзе жыў брат маці. Ва ўзросце чатырнаццаці гадоў стаў рабочым на лесапільні. Насіў дровы да паравіка. Была гэта цяжкая праца ў суровую зіму 1918 года. Вясной бежанцы пераехалі ў Курскую губерню, адкуль мелі іх адправіць на радзіму. Аднак вярнуцца не было магчымасці. Запанаваў голад. Цяжка было выжыць. Хлеб пяклі з аўсянай мукі. Хадзілі па людзях і збіралі бульбу. Потым пераехалі ў Варонежскую губерню, дзе было лягчэй з ежай. Настала жніво, і можна было зарабіць крыху хлеба. Калі неяк прыйшлі ў сябе, рашылі вяртацца на радзіму. Даехалі да савецка-нямецкага фронту на Украіне. У немцаў мусілі прайсці 9 дзён каранціну. У Спічкі вярнуліся пад канец верасня 1918 года. Не мелі свайго дому. Трэба было ісці ў заробкі. Капалі бульбу ў маёнтку ў Леўках. Запаслі на зіму бульбы і купілі ў немцаў 50 кілаграм жыта. У Спічках была беларуская школа. Настаўніца Мар'я Паплаўская ўзяла да сябе на кватэру Анну Ваўрашук з дзецьмі. Авакум меў магчымасць вучыцца на роднай мове. Потым яшчэ закончыў польскую аднакласную паўшэхную школу. Захавалася дасюль пасведчанне з даскаалымі ацэнкамі. Аднак тады найважнейшай была гаспадарка. Трэба было збудаваць дом, гаспадарчыя будынкі і абзавесціся жывёлай. Усё гэта звалілася на плечы маладога Авакума. Сястра выйшла замуж, памерла маці.

Сваё дзяцінства і маладосць успамінае і цётка Матрона:

— Калі былі ў бежанцах, у Расіі, памёр мой бацька. Нас у мамы было тры дачкі і там яшчэ нарадзіўся сын, але малым памёр. Жылі мы ў Саратаўскай губерні ў сяле Жураўліха. Прыгожая і вялікая мясцовасць над ракой Кімілі, што ў возера ўпадала. У гэтым сяле аж тры царквы было. Рускія людзі вельмі добрыя, шанавалі нас, бежанцаў, у бядзе памагалі, харчы прыносілі. З Расіі ехалі мы фурманкамі, такімі вазамі з будамі, у якіх і начавалі. У адным лесе прачынаемся і бачым: коней няма. Пайшлі тады да бліжэйшых сяліб за дапамогай. Адзін гаспадар прывёз сваім канём наш воз з лесу. Хацелася нам на радзіму. Адправілі нас мясцовыя на поезд. Вярнуўшыся дадому, засталі мы на яго месцы голы камень. На двары крапіва, больш нічога. Мама была з Кнарыд, і мы пайшлі туды да свая-

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Заручыны. У перыядзе, які раздзяляў лады ад шлюбу, павінны былі адбыцца тры важныя акты: заручыны, паненскі вечар, каравай. Заручыны былі свайго роду перадвясельнай рэпетыцыяй, таму ў некаторых мясцовасцях называліся яны малым вяселлем, або ачэпінамі. Як правіла, заручыны праводзіліся на тыдзень перад вяселлем у доме маладой. Прымалі ў іх удзел маладая, яе дружкі і маршалак, а таксама малады са сваім сватам. Старэйшая дружка рассцілала перад маладымі, якія стаялі за сталом, ручнік і клала перад імі надрэзаны бохан хлеба. Нават найстарэйшыя жыхары Беласточчыны не ўмелі нам сказаць, чаму хлеб павінен быў быць напачаты, толькі стогадовая Елізавета Бура з Бандароў дала вельмі верагодную інтэрпрэтацыю гэтага факту. Гаварыла яна, што ў часе, калі яна была яшчэ дзіцём, маці маладой ад бохна хлеба адрэзвала скібку, ламала яе напалову і частавала ёю маладую і маладога. Відавочна, у пазнейшыя часы занік звычай частавання хлебам маладых, але ўтрымаўся звычай адрэзвання адной скібкі. На такім бохне клалі свае рукі маладая і малады. Сярод інфарматараў няма згоды адносна таго, чыя рука, — маладой ці маладога — ляжыцца непасрэдна на хлеб. Большасць інфарматараў гаворыць, што непасрэдна на хлебе кладзе руку маладая. Старэйшыя людзі гавораць, што рука маладой на хлебе, па-першае, значыла, што жанчына павінна мець першынства ў раздзеле хлеба ў новай сям'і, па-другое, абазначала, што якраз хлеб з'яўляецца прадуктам жаночых рук. Малады, кладучы руку на руку маладой, стараўся, каб і яго пальцы дакраналіся да хлеба, што абазначала і яго ўклад у прадукцыю хлеба і ў яго падзел.

Калі рукі маладых былі ўжо паложаны на хлебе, маршалак паднімаў канцы ручніка і завязваў іх над рукамі маладых. Маладыя нейкі час аставаліся са звязанымі рукамі, а прысутныя інтанавалі песню. Цікавы прыклад такой песні паходзіць з Лукі:

Ой, наша (імя маладой)
дарагая,
Ой, ужэ сонечко дагарае,
Ой, рукі ужэ положоны на
хлебе,
Ой, хутко поведут до шлюбу
цебе.
Ой, хутко пакінеш хату
матулі,
Ой, благослаѕі дочку, татулю.

Бацька маладой падыходзіў да маладой і выказваў формулу: „Благаславі вас Божа! Дай вам Бог шчасліва да шлюбу даехаць і павянчацца".

Пасля гэтых слоў маршалак звальняў рукі маладых. Цікава, аднак, што не развязваў вузла ў ручніку, а выцягваў з гэтага

(Працяг на стар. 7)



Спяваюць Раіса Тынявіцкая і Лідзія Янчук.

# ДОБРЫ ПАЧАТАК

У Беластоцкім аддзеле БГКТ новы 1985/86 культурна-асветны сезон адкрыла 20 кастрычніка прыемная ўрачыстасць у клубе на Варшаўскай 11. Прыняў у ёй удзел актыў аддзела, старэйшыя і заслужаныя дзеячы нашай арганізацыі, удзельнікі аматарскага руху, моладзь.

Галоўнае праўленне ТППР прызнала Залатую Ганаровую адзнаку А. Амбражэй і накіравала да актывістаў аддзела Т. Баран, М. Гайдука, Л. Гаўрылюк, С. Копы, Я. Крупы персанальныя лісты з падзякай за самаахвярную працу ў ТППР і зычаннямі поспехаў у далейшай дзейнасці і памыснасці ў асабістым жыцці. Лісты ўручыла адзначаным актывістка Ваяводскага праўлення ТППР В. Ласкевіч.



Ганаровыя госці ўрачыстасці др. Я. Зенюк і мгр. В. Луба.

З дакладам пра мінулагоднюю дзейнасць і планы на бягучы сезон выступіў намеснік старшыні аддзела М. Гайдук. Падкрэсліў ён, што аддзел працуе з глыбокім перакананнем, што ўсё добрае, светлае, высакароднае ў яго дзейнасці служыць беларускай культуры і адначасова ўзбагачае культуру Народнай Польшчы. Пачынае ж аддзел новы сезон з немалымі дасягненнямі. У яго трох гуртках больш за 760 членаў і ў мінулым годзе вялася актыўная арганізацыйная і багатая культурна-асветная дзейнасць: у яго клубе на Варшаўскай 11 не было такога тыдня, каб не праходзіла якая-небудзь імпрэза ці мерапрыемства. Да найбольш значных М. Гайдук залічыў адкрыццё культурна-асветнага 1984/85 сезона, на якім вялікая група дзеячоў аддзела была ўзнагароджана Залатымі ганаровымі адзнакамі ТППР. Вельмі ўдала праведзеную супольна з гуртком БГКТ з Рыбалаў арыгінальную „Ноч Купалы", на якой дэкламаваліся вершы выдатнага нашага песняра, гучалі песні на яго словы, адрадзіўся старажытны беларускі абрад Купалля з карагодамі, скокамі праз агонь, пусканнем вянкоў па рацэ ды пошукамі папараці-кветкі. Аддзел будзе праводзіць гэтую імпрэзу штогод і ўжо прымяркоўваецца да гэтага, з намерам зрабіць яе яшчэ больш шматлюднай і гучнай. Не менш удалым быў беларускі фэстын у Беластоку, які 20 ліпеня г.г. аддзел супольна з гарадской радай ПРОН і гарадскім праўленнем ТППР арганізаваў у Беластоцкім амфітэатры. Вялікая колькасць людзей на гэтай імпрэзе паказала ўвачавідкі, што беластачане любяць беларускае слова і песню, беларускую культуру і хочуць яе. Такое мерапрыемства аддзел таксама прадбачвае правесці ў 1986 г. і пастулуе, каб разгарнуць яго ў штогадовыя Дні беларускай культуры ў Беластоку.

У аддзеле вельмі актыўна працаваў харавы калектыў. Бе-




# „ЧЭКІСТ"

Партызанскі атрад „Чэкіст" дзейнічаў у паўднёва-ўсходніх раёнах Беласточчыны. Гэта наваколлі Мельніка, Нурца, Мілейчыц, Чаромхі і Кляшчэляў, а таксама тадышняга Высокалітоўскага раёна, якія пасля вайны апынуўся часткова ў межах БССР.

У сваім вандраванні па ваенных сцежках я даволі часта сустракаўся з праявамі дзейнасці гэтага атрада, які даволі доўгі час існаваў і змагаўся без назвы, увабраўшы ў сябе першапачаткова мясцовых актывістаў, даўнейшых членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і савецкіх дзеячоў, якім пагражала пакутніцкая смерць ад рук гітлераўскіх захопнікаў. Паходзілі яны з Рагачоў, Мікуліч, Мядзвежыкаў, Ставішчаў, Клюковічаў, Зубачоў і з іншых тутэйшых вёсак. Далучыліся да іх уцекачы з гітлераўскага палону або савецкія людзі, заблытаныя на дарогах лютай вайны.



Дзмітрый Матвеевіч Макараў. Здымак з 1982 года.

Без сувязі з Вялікай Зямлёю, без цэнтральнага кіраўніцтва, без запасаў зброі і харчавання — яны часцей звычайна хаваліся ад карнікаў, чым ваявалі з варожымі гарнізонамі і яго камунікацыяй.

Летам 1943 года Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі, які тады яшчэ памяшчаўся ў Маскве, паслаў у нашы старонкі спецыяльную групу арганізатараў падпольнай і партызанскай барацьбы з акупантам. Шунько Тарас Андрэевіч назначаўся першым сакратаром Кляшчэлеўскага райкома КПБ, Макараў Дзмітрый Матвеевіч быў членам бюро і намеснікам Т. А. Шунько па аператыўнай частцы, а Архіпаў Грыгорый Язэпавіч меў узначальваць раённы Кляшчэлеўскі камітэт Камсамола Беларусі.

Мне ўдалося наладзіць сувязь з Дзмітрыем Матвеевічам, які пасля вайны пасяліўся ў Брэсце. Найперш пра гэтага арганізатара нашых землякоў да барацьбы са смяротным ворагам даведаўся я ад Ігара Сурава, які спачатку трымаў сувязь з атрадам „Чэкіст", а пад канец аку-

ластоцкія спевакі занялі першыя месцы ў „Беларускай песні-85“, без іх не абышлася амаль ніводная ўрачыстасць, якую праводзіла ГП БГКТ на ўсёй Беласточчыне. Яны ўжо пачалі рыхтавацца да конкурсу „Беларуская песня-86“. Не ўступаў яму беластоцкі тэатральны калектыў, ён не толькі іграў у Беластоку, але і аб'ездзіў амаль усю Беласточчыну — выступаў у Дубінах, Навасадах, Пашкоўшчыне і іншых мясцовасцях. Асабліва каштоўным выхаваўча было яго выступленне ў Бельскім беларускім ліцэі, якім нашыя самадзейнікі далі прыклад маладому пакаленню, як трэба працаваць для дабра роднай культуры. З такой жа пастаноўкай калектыў збіраецца ў Гайнаўскі беларускі ліцэй. Не менш працавітым будзе яго бягучы сезон, бо ён ужо развучвае новую пастаноўку і зноў збіраецца ў падарожжа па Беласточчыне.

Вельмі актыўна працаваў пенсіянерскі гурток БГКТ, які кожны першы чацвер месяца праводзіў цікавую імпрэзу.

У аддзеле прайшло многа ўрачыстых вечарын у гонар вялікіх гадавін і дзяржаўных святаў, выступалі дакладчыкі на тэмы актуальных палітычных, гаспадарчых, культурных спраў, моладзь праводзіла танцавальныя вечарыны, былі таксама многалюдныя балі на „новы“ і „стары“ новы год і шмат іншага.

Аднак не ва ўсіх дзялянках усё складвалася для аддзела добра. Не ўдалося яму давесці да адкрыцця навучання роднай мовы хоць у адной са школ Беластока, але гэтую справу ён ставіць як адно з галоўных заданняў на бягучы год і будзе працаваць у гэтым кірунку аж да вызначанай сабе мэты — беларускія дзеці ў Беластоку будуць вучыцца роднай мове! Неабходна таксама павялічыць колькасць спевакоў у хоры аддзела, заснаваць музычны калектыў, арганізаваць маладзёжны тэатр роднага слова, больш шырока заняцца працай з дзецьмі.

Пасля даклада пачалася дыскусія. Выступаючыя звярталіся да прысутных з заклікам прымаць больш актыўны ўдзел у беларускім культурна-асветным руху ў горадзе, патрабавалі павелічэння часу і частаты беларускіх перадач па Беластоцкаму радыё, выказвалі патрэбу арганізаваць курс беларускай мовы для дарослых, гаварылі пра бягучыя патрэбы аддзела і гурткоў.

Сакратар ГП БГКТ В. Луба ў сваім выступленні падкрэсліў, што новы культурна-асветны сезон будзе праходзіць пад лозунгамі адзначэння 30-годдзя БГКТ і „Нівы“, пазнаёміў з асноўнымі кірункамі працы таварыства і з яго новымі ініцыятывамі. Намеснік старшыні ГП БГКТ др Я. Зенюк высока ацаніў дзейнасць Беластоцкага аддзела і заклікаў працягваць і расшыраць яе ў новым сезоне, ствараць прыхільную беларускай мове і культуры атмасферу ў горадзе, актыўна ўключыцца ў адзначэнне 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ і выказаў упэўненасць, што новы сезон у працы аддзела будзе таксама багаты добрымі справамі і здзяйсненнямі.

Урачыстасць аздобіў багаты і цікавы канцэрт хору аддзела. А сапраўдны фурор зрабіла выступленне сёлетняга лаўрэата Агульнапольскага фестывалю савецкай песні ў Зялёнай Гуры мужчынскага калектыву „Звон“ з Беластока. Выканаў ён у сваёй арыгінальнай аранжыроўцы некалькі беларускіх народных песень з Беласточчыны. З вялікім задавальненнем была прынята вестка, што „Звон“ будзе працаваць пры Беластоцкім аддзеле БГКТ. (іс)

Фота аўтара



Выступае „Звон“ (Адам і Багдан Пура, Міраслаў Аляксейчук і Аляксандр Філіманюк).

пацыі і сам уліўся ў яго рады. Пасля мы крыху перапісваліся і ўрэшце летам 1982 года я наведаў Д. М. Макарава ў яго кватэры на вул. Куйбышава ў Брэсце.

— Я амаль усё сваё жыццё быў чэкістам, служыў у органах дзяржаўнай бяспекі, — з гордасцю сказаў мне Дзмітры Матвеевіч. — Таму я і запрапанаваў тамашнім партызанам, калі пад канец лета 1943 года ўдалося мне наладзіць з імі сувязь (іх было каля дзесяці чалавек), каб іх атрад назваць гордым словам „Чэкіст“. Яны ахвотна прынялі маю прапанову і да злучэння з Чырвонай Арміяй (пад канец ліпеня 1944 года) мы ваявалі пад гэтай назвай.

Правяраю па дакументах. У „Беларускай савецкай энцыклапедыі“ адзначаецца:

„Партызанскі атрад „Чэкіст“ дзейнічаў асобна ў Айчынную вайну на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Брэсцкай вобласці (Кляшчэлеўскі, Сямяціцкі раёны).

Створаны ў жніўні 1943 года на базе партызанскай групы Р.С. Каравая. У групу, якая пачала дзейнічаць у ліпені 1941 года, увaходзілі партыйныя і савецкія актывісты Кляшчэлеўскага раёна і ваеннаслужачыя. Камандзір — Р.С. Каравай, камісар — І. А. Палякоў (псеўданім „Чайка“, загінуў), начальнік штаба — В. Р. Елісейкін. Атрад налічваў 120 чалавек, 27.VII. 1944 года злучыўся з Чырвонай Арміяй.

Партызаны вялі адкрытыя і засадныя баі з ворагам, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. Распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро“.

Значыць, сапраўды быў гэтакі партызанскі атрад, які шмат якімі подзвігамі ўпісаўся ў гісторыю нашай шматпакутнай зямлі.

— Пастаянна пад зброяй, — заяўляе Д. М. Макараў, — у атрадзе „Чэкіст“ знаходзілася не больш 40-50 чалавек. Мы ж не мелі аніякіх спецыяльных паставак з-за лініі фронту, ніхто не дастаўляў нам харчавання, вопраткі і боепрыпасаў. Усё гэта даводзілася дабываць на месцы, карыстаючыся дапамогай мясцовага насельніцтва. Ды не было патрэбы трымаць людзей у лесе пад голым небам, калі яны маглі жыць у вёсках, працаваць на ўласных гаспадарках, наглядаць за паводзінамі ворага, а калі спатрэбілася, браць зброю ў рукі ды ісці па баявому заданню. Былі гэта нашы партызанскія рэзервы. Цераз гэтых людзей ішла наша сувязь, перадаваліся лістоўкі, газеты, пошта. Мы падначальваліся партызанскаму злучэнню Брэсцкай вобласці, камандаванне якога памяшчалася ў Гута-Міхалінскіх лясах. Дык уявіце сабе, што мае рапарты аб дзейнасці атрада „Чэкіст“ ці аб агульным становішчы ў нашых раёнах перадаваліся па сувязі з рук у рукі і даходзілі да камандавання не пазней як праз 7-10 дзён. Так спраўна дзейнічала наша партызанская пошта...

— Дзмітрый Матвеевіч, — перапыніў я даўнейшага чэкіста. — Мне хацелася б пачуць ад вас, як усё гэта стваралася, як вы і вашы таварышы ладзілі антыфашысцкую дзейнасць на Беласточчыне?

Д. М. Макараў адхіліўся на спінку крэсла, паглядзеў кудысьці ў столь, з якой звісала

(Працяг на стар. 8)




У дыскусіі, якая разгарнулася ў „Сардэчных тайнах“, напрашваецца пытанне: „Хто вінаваты?“ Тут, вядома, мужчыны будуць звальваць бяду на кволыя плечы жанчын, а жанчыны — на слянаватых мужчын, адначасова прыраўноўваючы сябе да саксонскага фарфору. Будуць і заканамерныя ўцёкі ў мінулае: „Былі ж на гэтым свеце і рыцары“.

А рыцарства, між іншым, рана аплакваць. Яно не знікла, трохі перайначылася. Калі сённяшні муж прапануе сваёй жонцы пабіцца ў яе гонар з суседам ці схадзіць у магазін, яна, несумненна, выбярэ другое. Калі муж памагае ў хаце, гэта прыкмета не слабасці, а асаблівай, падвоенай мужнасці: ён патрапіў падняцца над забабонамі, каб памагчы жонцы. І гэта трэба цаніць.

Хваліць, а не пілаваць — вось алгарытм паводзін шчаслівай сям'і.

Прапаную таму кучу вымытых мужчынам пялёнак прыраўноўваць да пышнага букета кветак, а стосік вымытых талерак — да яркага кампліменту. І гэта зусім не знізіць „высокі штыль“ паэзіі любві. Справа ж не ў матэрыяле (кветкі-пялёнкі), а ў сэрцы, укладзеным у гэты дар.

Мне здаецца, што ў самых пытаннях тыпу „хто вінаваты?“, „хто ў сям'і лідэр?“ крыецца зярно канфлікту. **Эмансіпатар**

(Працяг са стар. 6)

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

вузла рукі маладых. Большасць інфарматараў сцвярджае, што развязанне вузла давяло б да распаду вяселля. Жыхарка вёскі Ляшукі Анна Пташынская сказала: „Было ў нас такое здарэнне даўным-даўно. Маршалок, падвыпіўшы, узяў і забыўся, што гузла на ручніку развязваць ні трэбо і заместо таго, каб тые рукі маладых выцегнуць, гузла развазаў. І што вы думаеце? Веселе тое ўзяло і распаласо, хоць усё, здаецца, дагэтуль ішло як трэбо“.

Абрад заручын загінуў у большасці беларускіх вёсак ужо ў міжваенны перыяд, таму захавалася мала песень з ім звязаных.

А трэба сказаць, што быў гэта абрад цікавы і вельмі вымоўны. У яго цэнтры знаходзіўся хлеб, які ў адвечнай беларускай традыцыі трактаваўся і як рэальны фундамент жыцця і як духоўны сімвал чалавечага быцця, існавання сям'і і згоды паміж яе членамі.

Для сённяшняга маладога пакалення, якое завальвае хлебам сметнікі, значэнне гэтага сімвала мае ніякі характар. Аднак старэйшыя асобы, якія сутыкнуліся ў жыцці з недахопам хлеба, а часта бачылі і ўміраючых ад бясхлеб'я людзей, хлеб не перастане быць чымсьці выключным і святым.

**А. Баршчэўскі**

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

### КАЛІНА

У нашым жыцці назвы некаторых раслін выконваюць ролю своеасаблівага ўключальніка акрэсленых сфераў нашай магутнай кладоўкі памяці. У мяне імпульс „каліна“ адразу выклікае тэксты і мелодыі сама меней пяці розных песень ды яшчэ некалькіх вершаў. Сапраўды, гэта прыгожае дрэва, таму няма чаго дзівавацца, што яно стала натхненнем для стольніх стваральнікаў. Пішу гэты артыкул і безупынна ціхенька напяваю нешта пра каліну. Але ж заўсёды „дзе весялосць, там і сум“. Якраз каліна нагадвала мне сумнае здарэнне з бабульчынага лекавання зёлкамі. Неяк у адной жанчыны паявіўся надта вялікі і працяглы месячны крывацёк. Бабулька пачала яе лячыць спачатку напараннем з ягад каліны, а калі гэта не памагала, тады — больш моцным лякарствам, спіртавай наліўкай на кары каліны. На жаль, таксама безвынікова. Жанчына страціла столькі крыві, што трэці раз ледзь прывалаклася, бледная, бы палатно. Жыве яна толькі дзякуючы прытомнасці бацькі, які ніколі не давяраў цёшчынаму лячэнню, запрог у воз каня і завёз хворую да доктара ў Гайнаўку.

Гэта яшчэ адна нагода паўтарыць вядомую ісціну: „Пра расліны добра ўсё ведаць, але лячыцца трэба толькі ў лекара“.

Каліна звычайная (лацінская назва — Viburnum opulus, kalina koralowa — па-польску, калина обыкновенная — па-руску) расце ў вільготных лясах, зарасніках на берагах рэк і равоў. Лёгка прымаецца ў садах і агародах, а за сістэматычнае паліванне адплочвае надта буйным плёнам ягад, нават у 10 разоў большым, як у натуральным асяроддзі. Плады каліны ў меру даспявання мяняюць свой колер: спачатку з зялёнага на каралавы, потым на яскрава-чырвоны. Поўнае даспяванне пладоў наступае ўжо ў другой палове верасня, найпазней жа — у першых днях кастрычніка. Тады яны паволі пачынаюць асыпацца, але значная іх частка трымаецца на дрэве аж да снежня. Для хатніх патрэб плады збіраюць у лістападзе, пасля першых прымаразкаў. Мінусавая тэмпература ліквідуе іхнюю горыч. Вядома, хто мае месца ў маразілцы, са збіраннем ягад каліны не мусіць чакаць да прымаразкаў. Прамерзлыя ягады прыгодны на кампоты, мармелад, кісель, соус і іншыя прыправы да мясных страваў. Вельмі смачныя варэнікі, начыненыя ягадамі каліны.




Сушаныя плады, лісці і кветкі ўжываюць на зёлкавыя гарбаткі (не нарыхтоўваюць надта моцных напаранняў!), а таксама на дадатак да іншых зёлкаў.

У народнай медыцыне ўжываюцца амаль усе часткі расліны. У красавіку, калі „рушаць“ сокі, але яшчэ перад развіццём лісця, збіраюць кару каліны, у месяцах маі-чэрвені — лісці і кветкі, у верасні-кастрычніку — плады, але перад прымаразкамі. З іх нарыхтоўвалі лякарствы, якія затрымоўваюць крывацёкі, супрацьспазмавыя і супакойваючыя.

Напаранне з каліны пілі пры бранхіце, алергіі, крывацёках з маткі або з носа, малярыі, а знешне — пры экземе, празмернай патлівасці і г.д. Напаранне з насення каліны ўжывалі як адзін са сродкаў, каб выклікаць паценне.

Напаранне з лісця, кветак і пладоў прымянялі знешне пры высыпках, скулах, для прамывання ранаў і пры ангіне.

Сырыя ягады з мёдам рэкамендавалі як сродак супраць кашля і пры прастудзе. Сок з пладоў пілі як сродак пры катары страўніка, а знешне прымянялі для выбельвання рабаціння, ліквідавання прышчоў, себарэю (лаятоку) і выбельвання твару.

Насенне валодае ўзмацняючымі і пабуджальнымі ўласцівасцямі і можна яго ўжываць замест кавы, а ў пладах знаходзяцца злучэнні падобныя на валерыянавыя і таму напаранне з іх уздзейнічае супакойваюча.

Сучасная медыцына экстракты і напаранні з кары або пладоў каліны рэкамендуе ўжываць пры балючым перыядзе (месячным крывацёку), спазмах маткі, крывацёках падчас клімактэрыя (перацвітання), а таксама пры схільнасцях да заўчасных родаў і скідванняў. Хатнім спосабам можна нарыхтаваць напаранне: паўлыжкі сухіх пладоў на шклянку вады, піць па 1-2 лыжкі 2-4 разы ў дзень.

**[illegible]. Паскробка**

---

Цікавінка

## МУЗЫКА І СПЕЎ (2)

Мы ўжо раней сказалі, што рэлігійныя пачуцці адыгрывалі выдатную ролю ў развіцці і фармаванні музыкі і спеву, так як гэтым відам мастацтва з давен-даўна суправаджаліся рэлігійныя абрады. Каб найлепш перадаць розныя гукі і тэмбры, вынаходзіліся музычныя струны. Са старажытных часоў нам вядомы, апрача найпрасцейшых, аб якіх было ў папярэднім адрэзку, наступныя: тымпаны — жаночы інструмент з драўлянага кола, абцягнутага тонкай шкурай і абвешанага бубенкамі, труба — вялікі і моцны інструмент, ужываўся ў час ваенных паходаў, мноствам трубаў можна было аглушыць ворага; цытры — аркестравы інструмент, які пачынаў мелодыю, псалтыры — вялі мелодыю, кімвалы — гучны медны інструмент, які надаваў рытм.

Разам з музыкай родзіцца спеў. Найперш ён аддзелены ад музыкі. Арганізуюцца спецыяльныя групы спевакоў, названыя хорамі, якія таксама спявалі ў святынях або перад царом.

Адным з першых, вядомых нам з імя, здольных паэтаў і кампазітараў глыбокай старажытнасці быў, несумненна, цар Давід. Яго псалмы, запісаныя ў Бібліі, дайшлі да нашых часоў. Само слова „псалмос“ — грэцкае, а перакладзена з яўрэйскага „ліцмор“ і абазначае спеў з бразганнем.

Цар Саламон, сын Давіда, які пабудаваў вялікую святыню ў Ерусаліме, спалучыў спеў і музыку. Вядома нам, што ў 1004 г. да нашай эры, калі высвячалася Саламонава святыня, выступіў хор з 288 спевакамі разам з аркестрам у 120 трубаў.

Храмавы хор раздзяляўся на два паўхоры для спеву наперамен. Гэтакі спеў называўся і называецца дагэтуль антыфонным. Кантар, або І паўхор чытаў псалмы нараспеў (псалмадычны спеў), чытанне часта ўпрыгожвалася кароткімі падспеўкамі. Кантару адказваў ІІ паўхор або ўвесь народ. **(авл)**

---

(Працяг са стар. 7)

## „ЧЭКІСТ“

крыштальная люстра, і хвіліну заглыбіўся ў думках.

— Ну, добра, — адазваўся ўрэшце, — але з якога моманту распачаць расказ?

— Найлепш ад самага пачатку, — папрасіў я. — Можа прыгадаеце, калі вы ўпершыню трапілі ў нашы старонкі.

— А даўнейшы Высокалітоўскі раён вы і зараз лічыце вашымі старонкамі? — пацікавіўся Д.М. Макараў.

— Зразумела, — адказаў я. — То ж амаль палавіна даўнейшага Высокалітоўскага раёна засталася на тэрыторыі Польшчы. Гэта ж вялікая плошча ад Мельніка па Мілейчыцы, Нурэц і Чаромху.

— Дык трэба вам ведаць, што ад лістапада 1939 года да самай вайны з гітлераўскай Германіяй быў я начальнікам Раённага аддзялення Народнага камісарыята па ўнутраных справах...

— Значыць, НКВД, як тады ў нас гаварылася?

— Так, НКВД, — пацвердзіў Д. М. Макараў і дадаў яшчэ, што ён у органах дзяржаўнай бяспекі працаваў ад 1938 года, пасля заканчэння Курскага механічнага інстытута па спецыяльнасці ў галіне ваеннай прамысловасці.

Я папрасіў, каб ён яшчэ глыбей сягнуў у сваю аўтабіяграфію.

— Калі вас гэта цікавіць, — гаварыў ён, — дык нарадзіўся я ў 1911 годзе ў горадзе Раднікі, што ў 56 кіламетрах на ўсход ад абласнога горада Іванава. Гэта цэнтр Расіі.

Тут я падумаў, што дзе б я не павярнуўся па сваіх ваенных сцежках, дык усе яны нейкім чынам, так ці сяк, вядуць у Беласток або на Беласточчыну. Вось гэтае Іванава, калісьці Іванава-Вазнесенск, горад амаль паўмільённы, спалучае з Беластокам тэкстыльная прамысловасць. Гэта па ўзору бавоўнапрадзільнай Іванаўскай фабрыкі будавалі беластоцкія „Фасты“. У Іванаве прывучаліся беластоцкія спецыялісты, з Іванава яшчэ і сёння прыязджаюць самыя лепшыя знатакі тэкстыльнай тэхнікі, каб дапамагаць мантажнікам у „Фастах“ абсталёўваць высокапрадукцыйныя сучасныя прадзільныя станкі...

Гэта цяпер, у мірны час. А тады, у вайну, здарылася вось, што з Іванава завандраваў у нашы старонкі начальнік органаў дзяржаўнай бяспекі, Дзмітрый Матвеевіч Макараў.

— Мой бацька, — расказвае ён, — быў тэкстыльшчыкам, радавым рабочым, працаваў на тэкстыльным камбінаце „Бальшавік“. Я спачатку вучыўся, а пасля, на 21-ым годзе жыцця, таксама паступіў на працу на гэты ж камбінат. Найперш звычайным рабочым, а затым паставілі мяне майстрам.

Адначасова малады майстар актыўна дзейнічаў у Камсамоле. І гэтая арганізацыя накіравала яго на далейшую вучобу ў педагагічны інстытут, з якога ён па ўласнаму жаданню перайшоў у механічны інстытут ваеннай прамысловасці. Туды абы каго не бралі. То ж выпускнікі гэтага інстытута дапускаліся да важных ваенных тайнаў. Маладога інжынера папрасілі аднак не на завод па вытворчасці танкаў ці іншай ваеннай тэхнікі, а ў органы дзяржаўнай бяспекі. У красавіку 1938 года Д. М. Макараў апынуўся ў Маскве і, пасля кароткага выпрабавання ў цэнтры НКВД, 1 лістапада 1939 года накіравалі яго ў Брэст, а з Брэста — у Высокалітоўск. Такім чынам Дзмітрый Матвеевіч звязаў свой лёс з нашымі старонкамі, аб чым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Найлепшыя рукадзельніцы школы ў Дубяжыне са сваёй настаўніцай Валянцінай Шарко.*

## УРОКІ РУКАДЗЕЛЛЯ

У школе ў Дубяжыне (каля Бельска), адзінай школе на ўсёй Бельшчыне, уведзены эксперыментальныя вучнёўскія практыкі. Падобныя заняткі вядуцца яшчэ толькі ў беластоцкай школе № 9 ва ўсёй беластоцкай школьнай акрузе. У дубяжынскай школе спецыялізацыяй гэтых практык з'яўляецца рукадзелле.

У сувязі з гэтым кожная вучаніца вядзе спецыяльны альбом, у якім знаходзяцца ўсе працы, выкананыя па праграме рукадзелля. Мне давялося пабачыць альбом Касі, Марылі, Івоны. Цудоўныя там прыклады мастацкага вышывання, гафтавання, прыкладныя ўзоры.

Вынікамі навучання і ўмення дзяцей цікавіцца беластоцкая „Цэпэлія“. Гэтай установе залежыць на тым, каб развівалася народная творчасць, каб маладое пакаленне не забылася, як іх бабулі і дзядулі выраблялі розныя вырабы хатняга ўжытку.

Пад кіраўніцтвам настаўніцы Валянціны Шарко дзяўчаткі вышываюць сурвэткі і абрусы, робяць цікавыя ўпрыгожанні на сцены, вышываюць карціны, якімі ўжо, дарэчы, упрыгожаны школьны калідор, вышываюць ручнікі, робяць дробныя падарункі ў выглядзе вышываных паштовак, вяжуць кручком розныя насценныя дэкарацыі. Беластоцкай „Цэпэліі“ вельмі падабаюцца вырабы дубяжынскіх дзяўчатак. Таму дзеці атрымалі ўжо грошы на патрэбныя для працы падручныя матэрыялы — тканіну, ніткі, клей і іншае. З вялікім зацікаўленнем вучаніцы стараюцца пазнаваць старадаўнюю тэхніку вышывак, гафту, аплікацый, асабліва такую, якой карысталіся бабулі і мамы з ваколіц Дубяжына.

Радасна бачыць, што традыцыя вышываных блузак, ручнікоў, беларускіх кашуль не загіне. Залатыя рукі настаўніцы перададуць сваё ўменне спрытным дзявочым пальцам. І дубяжынскае народнае мастацтва пойдзе ў шырокі свет.

Добрая гэта рэч. Думаю, што і іншыя школы ў хуткім часе ўключацца ў гэту вялікую справу. А вучнёўскія практыкі па рукадзеллю і ў іншых галінах народнай творчасці перастануць быць толькі эксперыментам.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Вырабы дзяўчатак з Дубяжына.*

**Усевалад Нестайка**

## ГЭТЫ ДЗІЎНЫ РОМКА

Калі вы будзеце пераконваць, што самая вялікая радасць для вас — мыць посуд, то, прабачце, не паверу. Я ніколі не думаў, што ёсць такія людзі. І раптам.. Люська першая паведаміла аб тым, што Ромка любіць мыць каструлі.

— Уяўляеце, вокны іх кухні выходзяць проста пад наш балкон. Дык вось, я ўжо даўно заўважыла, што Ромка часта стаіць ля мыйні. Я, праўда, таксама мыю посуд, але толькі калі папросяць. Трэба ж дома дапамагаць. Праўда? А ўчора чую — Ромкава мама гаворыць: „Ромачка! Кінь ты гэтыя каструлі, я сама памыю. Ідзі пагуляй. Цябе ўжо двойчы хлопцы клікалі гуляць у мяч...“ — „Пачакайце“ — кажа. „Што ты яму скажаш?“ — развяла рукамі маці. — Раптам ні з таго ні з сяго захапіўся мыццём посуду.“ — „А што, — усміхаецца Ромка. — А калі мне падабаецца? Ці ж не можа быць у чалавека хоббі?“ Уяўляеш сабе?.. Страх!

Грышка адразу ж загарлапаніў:

— Ха-ха! Ромка — каструльшчык!

Але Алеся, самая сур'ёзная і памяркоўная ў класе, прыкрыкнула на Грышку:

— Ціха ты! Ты ў жыцці, мабыць, пасля сябе лыжкі не памыў. — І, трошкі памаўчаўшы, дадала: — Але наогул факт цікавы. Я заўсёды мыю талеркі і каструлі, але не скажу, што гэта дае мне прыемнасць. Трэба з ім пагаварыць...

Ромка не быў такі шумлівы, як Грышка, але не быў і ціхім, як Антось. І таму такое незвычайнае зацікаўленне ўсіх вельмі здзівіла.

— Слухай, — сказала Алеся, рашуча падышоўшы да Ромкі. — Ты што, сапраўды, любіш мыць каструлі? Толькі скажы праўду?

Ромка пачырванеў.

— Люблю! І... і... — усё! Каму што да гэтага? Не перашкаджай мне, бо не паспею паўтарыць. Прабач!

Ромка адвярнуўся ад Алесі і заглыбіўся ў падручнік.

Так Ромка перастаў быць звычайным хлопцам. Чалавек, які любіць мыць каструлі, па думцы ўсяго класа, не можа быць звычайным...

А праз некалькі дзён, на гэты раз ужо Грышка, зрабіў яшчэ адно дзіўнае адкрыццё. Ён нават не мог успомніць, чаго яго занесла на гэты пустыр, дзе ўбачыў Ромку.

„Зараз я яго напалохаю!“ — зларадна падумаў Грышка і, хаваючыся, пачаў паволі падкрадвацца да Ромкі.

Той, сапучы ад натугі, цягнуў велізарны камень. Можа, ён нешта будуе? Але вось Ромка паклаў камень на зямлю, перадыхнуў, а потым зноў узяў яго і перанёс на папярэдняе месца. Чаго ён надрываецца? У Грышкі далоні ўзмакрэлі. Жаданне напалохаць Ромку знікла. Грышка сам спалохаўся і штосілы пусціўся наўцёкі.

**(Працяг на стар. 10)**

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**
**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### НЕЗАБЫЎНЫЯ СЛОВЫ

Запраглі аднаго разу мне дома каня. Усклалі два мяшкі збожжа і выправілі ў млын. Там было вельмі завозна, але людзі паглядзелі, што я малы, і дазволілі змалоць без чаргі.

Ехаў я назад вясёлы і спадзяваўся прыехаць дамоў завідна.

Каля самага лесу я дагнаў пажылога падарожнага.

— Падвязі, хлопчык! — папрасіў ён.

А я, седзячы на мяшках, сцебануў бічом каня і весела крыкнуў у адказ:

— Даганяйце, дзядзька!

Але не праехаў я і вярсты, як з восі згубілася загваздка, кола скацілася, і конь стаў. Я паспрабаваў надзець кола, але не змог. Пачынала цямнець, а да дому заставалася яшчэ вярсты чатыры.

— Ах, чаму ж я не ўзяў таго дзядзьку на воз! — пашкадаваў я.

І як жа ж я ўзрадаваўся, калі ўбачыў яго. Здалёк яшчэ я папрасіў:

— Дзядзечка, родненькі! Дапамажыце мне надзець кола і паедзем разам.

А ён нібы не чуючы, абмінуў мяне і сказаў на хаду:

— А цяпер ты даганяй мяне!

Я заплакаў і прыпаў да цёплага мяшка з мукой. Раптам чую: хтосьці затупаў каля воза. Падняў галаву і бачу: той дзядзька вярнуўся.

Мы разам надзелі кола, селі на воз і паехалі. У дарозе дзядзька паклаў мне сваю руку на плячо і сказаў:

— Заўсёды, хлопча, дапамагай іншаму, калі ты можаш гэта зрабіць.

Больш сарака гадоў прайшло з таго часу, але і цяпер я адчуваю цёплую руку дзядзькі і не забываю яго словы.

**Паводле Міхася Скрыпкі**

*1. Куды бацькі выправілі хлопчыка?*
*2. З кім ён сустрэўся каля лесу?*
*3. Аб чым папрасіў падарожны?*
*4. Што яму сказаў хлопчык?*
*5. Якая прыгода напаткала хлопчыка?*
*6. Чаго пашкадаваў хлопчык?*
*7. Хто паратаваў яго ў бядзе?*
*8. Якія словы падарожнага запамяталіся хлопчыку?*
*9. Раскажы прыгоду, якая здарылася мінулым летам табе або тваёй сяброўцы ці сябру.*

*10. Прачытайце верш. Правільна назавіце кожную літару.*

### ЖУРАВЕЛЬ

**Абляцеў журавель**
**мораў шмат, шмат зямель.**
**Абляцеў, абхадзіў,**
**крылы, ногі натрудзіў.**
**Мы спыталі ў жураўля:**
**— Дзе ёсць лепшая зямля?**
**Журавель нам даў адказ:**
**— Няма лепшай, як у нас!**

*11. Запішыце словы па-беларуску:*
**Zagon, guzik, hak, maszyna, Jaś, chleb, czysty, Julita, szczotka, jaskrawy.**

## Пішуць школьнікі



**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!**

*Пасылаю Табе сардэчнае прывітанне з беларускай сталіцы Мінска. Мы, сябры клуба „Дружба-не-разлі-вадой", вельмі цябе любім, чытаем і чакаем.*

*Прыходзь да нас часцей, „Зорачка"!*

*Летам я разам з мамай і татам ездзіла ў горад Магілёў. Тата паказаў нам раку Дняпро. Да ракі мы спусціліся па ступеньках, якіх мы налічылі аж 150. Ногі мае стаміліся, але было вельмі прыемна. Над Дняпром мы правялі цэлы месяц. Шкада толькі, што часта ішоў дождж.*

*З прывітаннем*
**Наташа Рыжык**
**вучаніца пятага класа,**
**Мінск.**

## Пазнаёмімся

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 51. Таня Карпенка, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 14. Наташа Рыжык, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 3, к. 2, кв. 12. Іра Шаўчэнка, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 13, кв. 12. Оля Макарэнка, 5 клас.

* * *

БССР, 220089, г. Мінск-89, вул. Чыгуначная, 126-А, кв. 70. Лена Спірыдонава, 3 клас.

* * *

БССР, 220089, г. Мінск-89, вул. Чыгуначная, 126-А, кв. 79. Лена Бачыла, 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 112, кв. 14. Ляміс Мажэд, 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 112, кв. 14. Ліана Мажэд, 3 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 37, кв. 57. Оля Ліпіцкая, 5 клас.

# ГЭТЫ ДЗІЎНЫ РОМКА

**(Працяг са стар. 9)**

— Што я казаў? Што я казаў? Ён ненармальны! Так! Стукнуты! — разводзіў рукамі на другі дзень Грышка.

Усе былі ашаломлены.

— А ты не выдумляеш? — паглядзела Грышку ў вочы Алеся.

— Во! — стукнуў сябе ў грудзі Грышка.

— Можа, трэба сказаць Ромкавай маме? — няўпэўнена запрапанаваў Антоська.

Але зрабіць гэтага дзеці не паспелі.

У школе рыхтаваліся да сустрэчы з героем Айчыннай вайны.

Як толькі ён увайшоў у калідор у суправаджэнні настаўніцы, Люся ўскрыкнула:

— Ой! Ромка! Гэта ж наш сусед!

Ромка толькі сціснуў бровы і прамаўчаў.

Але Люся — гэта Люся. Нездарма ж яна вымаўляе пяцьдзесят тысяч слоў за дзень.

І не паспеў герой увайсці ў клас, як усе дзеці ведалі, што ён ужо год жыве ў нашым доме і працуе інжынерам. А Люся і не дадумвалася, што ён герой, таму што вельмі ціхі чалавек, з усімі вітаецца першым і нават дзецям дарогу ўступае...

Дзядзька Юрый заўважальна хваляваўся, і гаварыў аб сваіх подзвігах не столькі ён, колькі настаўніца (потым высветлілася, што яна яго ведала даўно, але выступіць у класе ледзь угаварыла — дзядзька Юрый не любіў расказваць аб сабе).

Ён быў сапраўдным героем! Тое, што ён зрабіў, мог зрабіць толькі герой. Звычайнаму чалавеку гэта было б не пад сілу.

У гады вайны дзядзька Юрый быў камандзірам танка. Ранній вясною сорак трэцяга года ў адным з жорсткіх баёў ён падбіў два гітлераўскія танкі. Але і яго машына загарэлася. Ён кінуўся ратаваць экіпаж. Спачатку выцягнуў з палаючага танка раненага стралка. Потым зноў палез у агонь і выцягнуў непрытомнага вадзіцеля. Сам пры гэтым таксама быў ранены і вельмі моцна абгарэў. А потым пад градам куль і разрывамі снарадаў ён два кіламетры па мокрым снезе, перамешаным з зямлёю, цягнуў на сабе па чарзе абодвух сяброў да рэчкі. Нашы былі на супрацьлеглым беразе. І дзядзька Юрый, узваліўшы сабе на спіну стралка, папоўз па лёдзе праз рэчку. Быў сакавік, лёд ужо падтаяў, ды і снарады нарабілі ў ім нямала дзірак. На сярэдзіне ракі дзядзька разам з раненым праваліўся пад лёд. Мала таго, што стралок быў паранены ў абедзве нагі, ён яшчэ і плаваць не ўмеў. Таму адразу пайшоў на дно. Тройчы ныраў дзядзька Юрый у ледзяную ваду, пакуль выцягнуў яго. Ледзь дабраліся да берага. А на другім беразе засталася так і не апрытомнеўшы вадзіцель танка. І дзядзька Юрый папоўз па яго.

Дзеці слухалі, затрымаўшы дыханне... Кожны быццам адчуваў, як страшна пячэ абгарэўшая скура, як ад дробнага руху ўсё цела праціне нязносны боль...

— Скажыце, калі ласка, і як вы ўсё ж змаглі?.. Гэта ж было так... так...

Дзядзька Юрый усміхнуўся і пацiснуў плячыма:

— Хто яго ведае... Але, думаю, у гэтым вінаваты каструлі.

Усе здзіўлена пераглянуліся. Дзядзька Юрый зноў усміхнуўся:

— Ведаеце... Быў у мяне дзед Гервась. Мы да яго ў вёску кожнае лета ездзілі. Ён быў героем грамадзянскай вайны. Я яго неяк і спытаў: „Дзядуля, ну, скажы, як гэта людзі героямі становяцца?" І ён мне адказаў: „Калі хочаш, Юрка, чагосьці дасягнуць у жыцці, навучыся рабіць тую работу, якую рабіць не хочацца... Таму што займацца любімым заняткам могуць усе. А вось тое, што цяжка, непрыемна, часам нават балюча, умеюць рабіць далёка не ўсе. Але іменна тыя, што ўмеюць, дасягаюць у жыцці чагосьці акрэсленага. Запамятай!"

Я гэтыя словы не раз успамінаў. У дзяцінстве я найбольш не любіў мыць посуд, асабліва тлустыя каструлі. Гарачай вады тады ў дамах не было... Жылі мы ўчатырох: я, мама, мая сястрычка-дашкольніца і паралізаваная цётка, маміна сястра. Тата памёр. Мама з раніцы да вечара на рабоце. Цяжка ёй было. Але ніколі не змушала яна мяне. Сама брудныя каструлі мыла позна вечарам. Мяне шкадавала — я тады толькі ў другі клас перайшоў.

Дык вось, пасля тых дзедавых слоў узяў я сабе за правіла мыць каструлі. Навят плакаў спачатку, так не хацелася гэтага рабіць, але потым прывычаіўся. І з'явілася тады ў мяне ўпартасць нейкая, настойлівасць. Памятаю, хлопцы нават дзівіліся. Неяк адзін сарвігалава закінуў новенькую чарніліцу-невылівайку нашай аднакласніцы ў глыбокую брудную лужыну. Дзяўчынка расплакалася. Ніхто не рызыкаваў лезці ў ваду. Я перамог свой страх перад бруднай вадой і ўсё ж выцягнуў чарніліцу. Ніколі не забудуся ўдзячнасці ў поглядзе той дзяўчынкі... І як бачыце, ва ўсім дапамаглі каструлі... Ну, і дзед, вядома... — Ён зноў усміхнуўся.

Усе, як па камандзе, раптам павярнулі галовы да Ромкі.

Той моцна пачырванеў і апусціў галаву.

...На наступны дзень Грышка ўпершыню ў жыцці памыў пасля сябе талерку.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**Знайдзіце дзве зусім аднолькавыя птушачкі.**



**Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1**

Песні па заяўках

**ТЫ МНЕ ВЯСНОЮ ПРЫСНІЛАСЯ**
(З рэпертуару „Песняроў“)

Словы М. Шушкевіча
Музыка Ю. Семяняки

Летняя ночка купальная
Ясная растаяла знічкаю.
Падаюць зоры світальныя
У чыстыя воды крынічныя.
Ой ты, дзяўчыначка мілая,
Як жа ты свет упрыгожыла.
Ластаўка ты легкакрылая,
Светлы мой сон растрывожыла.

Ты мне вясною прыснілася
Неразгаданымі чарамі,
Сэрца парыўна забілася
Лёгкімі крыламі-марамі.
Пэўна, цябе, ненаглядная,
Стрэў я часінаю ўдалаю.
Ты ж мая доля спагадная,
І не шкадую нямала я.







# НІЎКА

З чаго смяюцца суседзі.




— Ксеня, прашу: лепш вось энзэ забяры, толькі праграмы не пераключай.

**НЕ ЗАБАРОНЕНА**

Рыбак сядзіць на беразе рэчкі і назірае за тым, як сімпатычная дзяўчына збіраецца ўвайсці ў ваду.

— У гэтым месцы купацца забаронена! — крычыць ён ёй.

— Дык чаму ж вы не сказалі мне аб гэтым раней, да таго, як я раздзелася?

— А раздзявацца тут не забаронена.

**НЕ ПАЛІЧЫЎ**

Міша прыйшоў у аптэку і папрасіў якіх-небудзь парашкоў для знішчэння тараканаў.

— Многа? — спытаў аптэкар.

— Я іх не лічыў, — адказаў Міша.

ГУМАР З БАРАДОЮ

**ВЫЧЫСЦІЛА**

— Чаго гэта ў вас, Даніла, учора пад вечар моцна крычалі?

— Сажа ў коміне загарэлася.

— Ну і што, вычысціла комін?

— Ага, усё вычысціла, адна печ засталася.



Гавараць, што канец вянчае справу, а сам хаваў канцы ў ваду.

**НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ**

— Дзед, пазыч мне дваццаць пяць рублёў — з пенсіі вярну.

— З якой гэта пенсіі? Табе яшчэ дваццаці не скончылася!

— З бабулінай...

*

Наведвальнік афіцыянту:

— Паслухайце, я ўжо дзесяць мінут намагаюся разрэзаць біфштэкс!

— Не хвалюйцеся, — адказвае афіцыянт, — мы яшчэ не хутка закрываемся.

*

Міністр свайму начальніку кабінета:

— Выклічце, мсье, маю машыну.

Начальнік кабінета свайму намесніку:

— Выклічце машыну патрона.

Намеснік — дыспетчару:

— „Кадзілак“ шэфу!

Дыспетчар — начальніку гаража:

— Калёсы нашай малпе.

**А САМ!?**

Прыйшоў механік наш Панас
Глядзець кіно ў рабочы час.
А там яго дырэктар з дамай:
Глядзіць Панасу ў вочы прама.
І нават не пачырванеў.
А ўраз накінуўся, як леў:
— Ну што, папаўся, галубок?!.
Ну і задам табе я ўрок...
Панас, падумаўшы аб нечым,
Тут рызыкнуў і запярэчыў:
— Але ж і вы у час работы..!
— Дык я ж лаўлю вас,
абармотаў...
Вымову уляпіў Панасу,
Хоць і прагул зрабіў з ім разам...

Арнольд Пятровіч

З „Весніка Задрыпоніі“

**КЛОПАТЫ АБ СПАЖЫЎЦУ**

Тытунёвая фабрыка г. Курылаўска ўзяла на сябе клопаты аб здароўі курцоў. Ад гэтага часу сігарэты ўсіх гатункаў будуць вырабляцца на фабрыцы з двайным фільтрам, устаноўленым з абодвух канцоў сігарэты.

**ПАРАДЫ**

Калі вы сядзіце ў салоне цырульні паўтары гадзіны і да вас ніхто не падыходзіць — ведайце, яна перайшла на самаабслугоўванне.







# Курёзы

**ГОРАД ІЛЮЗІЯНІСТАЎ**

Гэта можа здавацца неверагодным, але факт застаецца фактам: кожны пяты жыхар італьянскай сталіцы — лічы ілюзіяніст. Рымляне могуць, напрыклад, ездзіць гарадскім транспартам задарма (хоць праезд у муніцыпальным транспарце ў Італіі ў апошні час значна падаражэў), а кантралёрам будзе здавацца, што за поўны кошт.

Сакрэт гэтых фокусаў вельмі просты: пасажыры карыстаюцца фальшывымі білетамі, выраб якіх стаў ледзь што не бедствам для мясцовых улад.

**ЖЫВЫ ТАВАР**

Не так даўно газета „Гамбургер Моргенпост“ расказала на сваіх старонках аб тым, як дзесяткі дзяўчат, якія не мелі работы дома, у Дамініканскай рэспубліцы, пагадзіліся паехаць у ЗША, каб зарабляць на жыццё прастытуцыяй. Трэба сказаць, што і ў гэтым адчайным намеры ім не зусім пашанцавала дабрацца да месца прызначэння. Паколькі ехалі яны кантрабандай, то везлі іх у труме карабля, у грузавых кантэйнерах. З усіх 60-ці 28 дзяўчынак элементарна задыхнуліся і памерлі.



Пераважна падтрымліваюць таго, хто моцна стаіць на нагах.